Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён.
Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй.

# ІСКРА

Выходзіць тры разы у тыдзень.

Перамена адрэса 30 грошы.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 4. Вільня, Серада, 17-га чэрвеня 1925 г. Год I.

## Прамовы паслоў Тарашкевіча і Ярэміча.

*Паседжаньне Сойму 10 чэрвеня 1925 г.*

**Маршалак** ... Пераходзім да пасьпешных унёскаў.

Перш, чым даць слова паслом, што запісаліся да матываваньня пасьпешнасьці, хачу зрабіць колькі ўвагаў і скіраваць да Вас, паны, адзін прызыў. Гэты прызыў патрэбны таму, што не заўважыў сформулованых надпісаў аднаго і другога ўнёску. Вядзецца блізка за правіла, а ў кожным разе дзеецца нязьмерана часта, што ў інтэрпэляцыях ці ўнёсках пасьпешных і непасьпешных у загалоўках знаходзяцца вельмі дражлівыя і драстычныя азначэньні некаторых фактаў, якія бязумоўна заслугоўваюць на такі асуд, калі акажуцца праўдзівымі і сьцверджанымі. Ня маю намеру пярэчыць, што гэтыя факты быццам не праўдзівыя, аднак жа думаю, што лепш адлажыць гэтакі прысуд да таго мамэнту, калі будзем чуць аб дадзеным факце са стараны на тое пастаўленай, гата зн. са стараны ўраду. Я-б вельмі Вас прасіў, паны, з огляду на павагу Сойму і з огляду на канешнасьць захаваць пэўную бесстароннасьць, каб Вы прытарнаваліся да гэтага. Кірую гэта, як прызыў—просьбу... Да пункту 15: пасьпешнасьць унёску паслоў беларускага клюбу, у справе бандыцкага нападу асаднікаў на пасла Ярэміча. Слова мае пасол Тарашкевіч...

**Тарашкевіч**. Высокая Палата! Загаловак у гэтым пасьпешным унёску — прызнаюся — вельмі дражлівы, але толькі таму, што самая справа яшчэ больш дражлівая. Аднак-жа, паны, каб не раздражніць Вас на самым пачатку, я папрашу Вас прадставіць сабе тое здарэньне з 1922 г., якое дзеілася ў Пазнані, калі на пасла Вітаса з прычыны партыйнае калатні зроблены падобны-ж бандыцкі напад. Ведама-ж, быў пададзены пасьпешны ўнёсак і яго пасьпешнасьць бараніў тады пасол Ратай, чалавек, які дасканальна знае польскую мову, чалавек, які бязумоўна, мае вялікую хілкасьць мысьлі і йшчэ вялікшую лёгкасьць яе выразшэньня... І вось дасловна, што казаў тады гэты адточаны стыліст:

„На веча гэтае прыбыла банда, узброеная палкамі. Правадыром гэтае банды быў паміж іншым адзін з паслоў так званае Хрысьціянскае дэмократыі. І вось, калі тыя грамадзяне (Вітас і яго прыяцелі) выхадзілі з трактыеру з пераконаньнем, што староста і начальнік паліцыі споўняць—перапрашаю за выражэньне — свой сабачы абавязак, то з брамы на воку паліцыі выляцела банда і кінулася на сядаючыя ў аўтамабіль“.

І вось сказана, на чале банды быў пасол з хадэцыі, а вы, паны, маўчалі... Напалі на паслоў, калі тыя выходзілі з трактыеру а, ёсьць ведама, пры трактыерах розныя рэчы бываюць... Тымчасам тут зроблены напад на паслоў, калі тыя спаўнялі свой пасольскі абавязак, прадугледжаны констытуцыяй, здавалі праваздачу з работы ў Сойме. Тады іменна напала банда вайсковых асаднікаў зарганізаваных, як гэта выясьняецца, ўладай „bieżpieczeństwa“. Цяпер ёсьць вестка аб тым, што напярэдадні гэтага здарэньня ў старостве адбыўся сход у прысутнасьці пружанскага старасты, ягонага заступніка і асаднікаў і на гэтым-жа вечы на прапазыцыю старасты быў кінуты лёс, хто мае ўдэрыць беларускага пасла. Здарыўся-ж гэты напад у варунках, калі а падражненьні каго колечы пасалом Ярэмічам не магло быць і мовы, бо калі пасол ішоў на трыбуну, то зараз-жа зводдаль пачала страляць паліцыя, каб вытварыць замяшаньне; пасол зыйшоў з трыбуны супакоіць народ, а тымчасам банда асаднікаў, прыведзеных на маіх вачох пад самую трыбуну паліцэйскім, напала на пасла і пачала яго біць. Паліцыя была бясчыннай аж да мамэнту, пакуль ня трэба было бараніць нападаўшых ад узбуранага натоўпу; толькі тады паліцыя паказала, што яна ўмее.

Так было ў Пружанах... А што-ж было далей у Сойме. Калі я выступіў бараніць тую законнасьць, аб якой вы, паны, так часта кажаце, тады вы, не даючы мне гаварыць, не даючы называць рэчаў іх уласным іменем, тады вы пакрылі гэтае шальмоўства.

Дык вось сёньня стаўлю вас перад адным з двох: альбо, галасуючы за пасьпешнасьцю ўнёску, станунь на старане хоць бы прызвайтасьці, альбо, галасуючы проці гэтага ўнёску, станунь яшчэ адзін раз па старане бяспраўя і шальмоўства. Прасіці ня буду: вашае дзела выбраць — дык выбірайце!..

**Маршалак**. Паны паслы, хто за сьпешнасьцю ўнёску беларускага клюбу прашу ўстаць. (Усе направа ад „Вызваленьня“—сядзяць). Стаіць меншасьць. Пасьпешнасьць унёску адкінута. (Крыкі і шум зьлева. Маршалак звоніць). Унёсак ідзе да адміністрацыйнай камісіі.

Прыступаем да 16 пункту парадку дня. Пасьпешнасьць унёску паслоў беларускага клюбу ў справе забойства Антова Вайтовіча, дзікага катаваньня вучыцеля Беганскага і іншых сялян, учыненага пагранічнай стражай і вывядоўцамі.

Для абароны пасьпешнасьці мае слова пасол Ярэміч.

**Ярэміч**. Высокая Палата! Тыдні со два таму назад пры разглядзе бюджэту Міністэрства Унутраных Спраў я падымаў справу аб забойстве Вайтовіча, а гэта дзеля таго, што наш пасьпешны ўнёсак ня мог ніякім спосабам трапіць на парадак дня поўнага збору Сойму.

Вяртаючыся да справы, хачу сказаць колькі слоў аб гэтым ганебным чыне, аб гэтым ганебным забойстве Вайтовіча, якому задалі 35 ран, з якога, жывога чалавека, вытачылі кроў і толькі ўначы быў устрывожаны афіцэр 10 баону наглаю сьмерцю Вайтовіча. Спраўдзілі гэта сэкцыяй нябожчыка, а далей адчытаю яшчэ адказ Міністэрства. У гэтым самым 10 баоне Беганскага і ягоную сястру катавалі бэстыяльскім спосабам, забівалі пад ногці шпількі, так што іх зрывалі. (Шум). Тады, калі я казаў аб гэтым з трыбуны, мне крычалі: „А мы гэта спраўдзім, а калі гэта акажацца няпраўдай, то п. Ярэміча пацягнем да адказнасьці“. Але вось неяк ніхто не паказаўся, ніхто не пашоў, ня спраўдзіў. А калі вы тады абвінялі мяне ў ілжы, то вось цяпер я прычытаю адказ Міністэрства Ўнутраные Спраў. (Чытае).

„Варшава, дня 2 мая 1925 г. Сільвэстра Беганскі і ягоная сястра Надзея былі арыштаваны дня 23 сьнежня 1924 г., як сільна западазроныя ў арганізацыі на абшары Віленскага павету дывэрсыйных бандаў і камуністычнай работы. Запраўды сьледзтва, праведзенае ў справе Беганскага, пацьвярдзіла, што Сільвэстра Беганскі ў часе быцьця ў арыштце быў паддаваны біцьцю і зьдзекам, дакананым тайнікамі Х-га баону Ахраны Пагранічча. Тайнікі гэтыя, іменна Малікоўскі і Занехоўскі ня ёсьць урадоўцы дзяржаўныя, а цывільныя асобы.

Затое сьледзтва, праведзенае ў гэтай справе следавацелем віленскага павету, ня выявіла якіхколечы фактаў біцьця і зьдзекаў, а тым больш якога гвалту над асобаю арыштаванае сястры Беганскага, якая на дапыце ў сьледаваце́ля ні на што ня скардзілася.

Памёршы Антон Вайтовіч згодна з сабранымі шляхам дасьледу верагодных даных браў чыннае ўчасьце ў бандыцкім нападзе дня 10 студня г. г. на дом Яна Куніцкага ў Сыцэвічах, Вялейскага павету (*пасол Станьчык: дык за гэта яго забіваюць, а ня судзяць*!).

Роля Вайтовіча ў гэтым нападзе была такая, што вартаваў пад вакном у той час, калі іншыя бандыты рабавалі. На падставе гэтых дадзеных Антон Вайтовіч загадам афіцэра разьведчыка Х-га баону паручніка Вардзынскага быў арыштаваны („przytrzymany“) 20 студня г. г. у 7 гадзін раніцы і дастаўлены ў 16 гадзін таго-ж дня ў Краснае дзеля дапыту. У 24 гадзіны ўначы доктар кап. Гіцкевіч быў устрывожаны неспадзеванаю сьмерцю Вайтовіча. Доктарскія аглядзіны і сэкцыя цела ўстанавілі, што ён памёр ад пабіцьця ў Красным.

Ярэміч чытае міністэрскае пісьмо й далей, дзе міністар напірае на тое, што афіцэры ня білі, а толькі „цывільныя асобы“—тайнікі Маліковскі і Замеховскі, што тайнікі аддадзены пад суд, што ў гэтай справе вядзецца следзтва, што афіцэры—вывядоўцы Ахраны пагранічча-вельмі добрыя служакі і лагодныя людзі, што наагул выпадкі біцьця гэта толькі выняткі, а ніякай сыстэмы ў гэтым няма і г. д.

**Маршалак** прыпамінае, што ўжо даўно час скончыць.

**Ярэміч**. Яшчэ пара слоў толькі. Дык вось, паны, з аднаго боку, калі ў Лодзі Энгель забіў тайніка, то яго палічылі за ўрадоўца і Энгеля засудзілі на сьмерць. З другога-ж боку, калі забілі Вайтовіча, то пан Міністар кажа, што яго забіў не ўрадовец, а толькі нейкая цывільная асоба! Восьжа й пытаюся, хто гэтыя тайнікі — конфідэнты ў Польшчы, ці гэта бандыты, што забіваюць людзей і дастаюць за гэта пэнсію, ці гэта—дзяржаўныя ўрадоўцы. Хай-жа пан міністар хоць раз нам скажа. Я, можа, не казаў-бы а пасьпешнасьці гэтага унёску, каб не паўтараліся-б падобныя здарэньні ўсё часьцей. Нядаўна ў маі...

**Маршалак.** Пане пасол, ня можаце даўжэй гаварыць, мусіце кончыць!

**Ярэміч.** Дык вось, Высокая Палата, прашу прыняць пасьпешнасьць і выбраць камісію з 10 сябраў, каб разабраць справу на месцы.

---

Сэйм адлажыў галасаваньне над гэтаю справаю да наступнага паседжаньня, дамагаючыся ад міністра выясьненьня гэтае справы з соймавае трыбуны.

---

Тое, што пан міністар піша выходзіць так: каб я, каб каму, каб калі, каб дзе, каб што, каб якое, а то-ж—нікому, ніколі, нігдзе, нічога ніякага... а калі што якое—дык што-ж там такое!!

---

**Па загаду Камісара Ураду на м. Вільна п. Вімбара сканфіскаваны №№ 2 і 3 газэты „Іскра“ за артыкулы: № 2—„Ядавітыя газы“, У сойме і каля сойму. № 3—„Дары крэсам“, „Забойства“, (аб Вайтовічу ў Вялейск. пав.), і карэспандэнцыі „Ідэйны самаўрад“.**

---

## Як загарантаваны „пактам бясьпечнасьці“ франка-нямецкая і польска-нямецкая граніцы.

Як заявілі абодва міністры—Брыян і Чэмбэрлен—яны дайшлі да поўнага паразуменьня — па ўсім пунктам — у справе знамянітай прапазіцыі нямецкага ўраду а „забясьпечываючым мір пакце“. Вельмі цікавы і важны зьмест гэтага паразуменьня. Пакт будзе падпісаны Англіяй, Францыяй, Бэльгіяй і Нямеччынай, пакінута мейсца для Італіі.

Пакт гарантуе толькі заходнія граніцы Нямеччыны (з Францыяй і Бэльгіяй), гэтая гарантыя накладае на Англію неадкладна і бязумоўна аружна выступіць на абарону гэтых граніц, калі Нямеччына сама нападзе на Францыю ці на Бэльгію (не справакаваная гэтымі дзяржавамі!). Што датычыць усходняй граніцы Нямеччыны (з Польшчай і Чэхаславакіяй), дык гэтыя граніцы застаюцца пад аховай Лігі Народаў, статут якой Англія яшчэ раз пацьвярджае з усей сілай... Дык перад усім вялізарнае значэньне мае самы факт фактычнай і міжнародна-юрыдычнай розьніцы, якую зрабіў пакт з (4) вялікіх дзяржаў — паміж граніцай заходня-нямецкай і ўсходня-нямецкай,—паміж нямецкай граніцай з Францыяй і нямецкай грані- з Польшчай і (Чэхаславакіяй).

Але трэба прыгледзіцца бліжэй да зьместу гэтай прынцыповай розьніцы. Калі Нямеччына нарушыць сваю заходнюю граніцу, дык, апрача Францыі і Бэльгіі, аўтаматычна мае перад сабой усю ваенную моц і Англія. А калі Нямеччына нарушыць сваю ўсходнюю граніцу, дык пачнуць дзеяць адносныя §§ статуту Лігі Народаў, паводле якіх усе сябры Лігі абавязаны прыйсьці на помач заатакаванаму сябру. Каб пусьціць у ход і арганізаваць гэтую агульную, ці спэцыяльна даручаную тым ці іншым сябрам Лігі абарону, павінна сабрацца Рада Лігі Народаў,

Рада Лігі Народаў павінна аднагалосна бяз учасьця заінтэрасаваных сяброў пастанавіць аб распачацьці акцыі проці напаўшага. Дык перад тым яшчэ і выясьніўшы хто ў запраўднасьці зьяўляецца напаўшым.

Рада Лігі можа тады даручыць, ці дазволіць Францыі прайсьці праз дэмілітарызаваны пас удоўж Рэйну... Калі Францыя, не чакаючы дазволу, пагвалціць гэты пас самавольна, дык адразу пакт і статут Лігі—траціць на гэты выпадак вайны ўсю сваю сілу... Тады ужо і навет калі Нямеччына, як ужо „справакаваная“ Францыяй, сама нарушыла-б сваю граніцу з Францыя і пашла-б праз „цывілізаваную“ лінію Рэйну—біць французаў, дык з гэтага ўсяго ўжо ніякога абавязку ўмяшацца ў вайну з боку Англіі ня было-б... Нямеччына, Францыя і Польшча тады былі-бы прадастаўлены самі сабе шукаць сабе саюзьнікаў і... ворагаў, паміма Англіі.

Вось, у чым вельмі важная па сутнасьці розьніца між нямецка-францускай і нямецка-польскай граніцамі, як яны ўстаноўлена новым, маючым быць у хуткім часе падпісаным пакце між Ан-

гліяй, Францыяй, Бэльгіяй і Нямеччынай і, магчыма—Італіяй.

Прынамсь—роль Англіі гэтым пактам высьветлена і азначана дакладна даканца і зьменам ужо не падлягае.

Можна сказаць—на пацяшэньне Польшчы,—што яе саюзьніца рабіла і зробіла, што магла... Не магла, зразумела, толькі змусіць Англію — каб тая налажыла сабе вяроўку на шыю за ўсе тое, што Францыя нарабіла ў Вэрсалі...

## Новыя правакацыі у Кітаі.

Дапраўды —

Усё тое, што згалелая, здурнелая, а перад усім дарэшты маральна збанкрутаваная ў самазабойчай вайне—імпэрыялістычная Эўропа вырабляе надалей над тымі „каляровымі кантындэнтамі“, якія яна лічыць так ці інакш сваей уласнасьцю, ня можа быць названа інакш, як правакаваньнем страшэннага выбуху з аднаго боку і—самагубствам вар'ята, з другога.

Толькі здалеў больш-менш Кітай неяк злагодзіць тэй-жа Эўропай выкліканую і падтрымліваную хатнюю братазабойчую вайну, заняўшыся наадварот — у паразуменьні з Расеяй вялікай акцыяй дзяржаўнага аб'яднаньня і вызваленьня з-пад ярма эўрапэйцаў, як гэтыя апошнія ізноў знайшлі повад выклікаць новы ўзрыў ненавісьці ў Кітаі, аб'яднаўшы ўвесь край і новую пагрозу крывавай сутычкі на Усходзе.

Асяродкам крывавых падзеяў ізноў аказаўся Шанхай. Гэтае кітайскае места даўно настолькі апанавана чужынцамі, што падзелена навет на 3 часьці, з якіх адна з'яўляецца чыста францускай, другая англа-амэрыканскай, а толькі трэцяя—кітайскай.

Уся кітайская бяда найляпей адбіваецца ў абразе гэтага места: чужацкая часьць места—тых паразітаў, што жывуць на целе кітайскага народу і яго ўласнага краю, карыстаючыся працай яго рук,—аж трэскаюцца з надмеру багацьця і раскошы; а толькі дзяльніца самага гаспадара краю, самага кітайскага работніка, што стварае сваей працай гэтае багацьцё чужынцам,—паражае нуждой і ўбожствам...

Але лятуцяць яшчэ імпэрыялісты... у Кітаі, што жалезам і крывёй здалеюць яны змусіць да далейшай пакоры паняволеных гаспадароў краю.

Дык вось, што здарылася ў Шанхаю.

На японскіх фабрыках у Шанхаі выбухла забастоўка. Японскія прамыслоўцы зрабілі спробу задушыць забастоўку сілай. Некалькі работнікаў было ранена. Гэта выклікала абурэньне сярод кітайскага грамадзянства і найбольш шляхотная яго частка — студэнцкая моладзь—зрабіла на вуліцах Шанхаю вялікую дэманстрацыю проці насільства чужаземцаў. Чужаземская паліцыя, баронячая, як паўсюдых, інтэрэсы капіталістаў, і здэмаралізаваная тут ня менш, чым дзе інш, пачала стрэляніну, навет без папярэджаньня, — забіла 11 чалавек і зраніла 16, каля 40 арыштавала. Праз дзень ізноў забіта 3 студэнты, ранена 17. Па ўсім краю гэтая разьня безбаронных выклікала страшэннае абурэньне. Абвешчана была агульная забастоўка ў Шанхаі, якая перакінулася ў іншыя месты. Па ўсім Кітаі пачаліся варожыя сутычкі з чужакамі.

Кітайскі ўрад заявіў прадстаўнікам дзяржаў рашучы пратэст проці павядзеньня іхняй паліцыі ў Шанхаі і патрэбаваў звальненя арыштаваных.

Але гэтыя паны-каты, самі справакаваўшыя ўсё здарэньне, самі-ж пачуліся пакрыўджанымі і пачалі рыхтавацца да „карацельнай экспэдыцыі“—на „ўсьмірэньне“ непакорнага краю... Ізноў, як паўгода таму, у Шанхай пачалі пасылаць крэйсары з войскам Японія, Англія, Францыя. Толькі Амэрыка неяк прызнала крыўду Кітаю, але — больш у піку сваей канкурэнткі Японіі...

Самі амэрыканцы заявілі галасна (ў піку-ж Японіі), што прычына ўсіх разрухаў у Кітаі — тая, што эўрапэйцы (і амэрыканцы таксама-ж!), карыстаючыся з лагоднасьці і мілітарнай слабасьці кітайцаў, захапілі ў працягу апошніх 30—50 гадоў ня толькі ўсе жалезныя шляхі ў Кітаі, але і найлепшыя яго натуральныя багацьці. І вось з-за гэтых усіх „канцэсіяў“ і ідзе страшэнная барацьба і канкурэнцыя дзяржаў, якія хаця інтрыгуюць адна проці аднэй, але разам трымаюцца, як толькі кітайскі народ прабуе вызваліцца ад гэтых жываедаў-эксплёататараў...

Ядуць папросту жыўцом, грызучыся друг з другам, гэтыя жываеды-імпэрыялісты кітайскі народ і яго ўласны край, набіваючы сабе кішані... Дык дзіва, што расьце, неабмяжована расьце слушная і сьвятая ненавісьць ахвяры да гэтага ката „вышэйшай культуры“, які мае на мэце ня гэтую культуру а толькі ўласную карысьць.

І вось цяпер, трэба сцьвярдзіць гэта, нашы кітайскія браты паразумнелі ўжо і памацнелі да таго, што пачалі ўжо ставіць апор гэтым жываедам, паставіўшы і агульную задачу сабе—вызваленьня з пад іх ганебнай няволі...

Цяжкі і доўгі шлях гэтай вызваленчай акцыі, але няма той сілы на сьвеце, якая-б яе спыніла, раз яна пачалася.

А кожны лёгка зразумее, якога кіраўніка, таварыша і памоцніка мае кітайскі народ у гэтай сваей акцыі ў асобе братняга і суседняга народа—расейскага, — а перад усім — заклятага ворага імпэрыялістаў усіх краёў—Радавага ўраду.

## Інтэрпэляцыі Беларускага Пасольскага Клюбу.

**№ 240**—Паслоў Беларускага Клюбу да п. Міністра Справядлівасьці — у справе забойства жаўнерамі гранічнай стражы солтыса (старасты) в. Брыкоўшчына, Ланьскай гміны, Нясьвіжскага пав.

Перад Пасхай гэт. году. Сяляне в. Брыкоўшчыны, Ланьскай гміны, Нясьвіжскага павету — Лаўрэн Лях, Адам Лях і Юльян Шэстак капцілі па над тлеючым агнем каля хатаў шынкі — каля 9 гадзіне вечара. Два з іх былі пры агні, трэці рубаў паленьні. У той час надыйшоў патруль, які скамандоваў: „рукі—у гару, на зямлю!“

Сяляне споўнілі загад каманды, але жаўнеры пачалі стралянiну з карабінаў па ляжачых людзях—у адлежнасьці некалькі дзесяткаў крокаў.

У часе гэтай стралянiны быў сьмяротна ранены 3 кулямі солтыс Ляўрэн Лях. 2 кулі прастрэлілі яму нагу, трэцяя прайшла скрозь грудную клетку, на крык раненага Ляха выскачыла з хаты жана яго і дваюрадны брат Міхал Лях, якіх пасьля гэтага жаўнеры зьбілі прыкладамі стрэльбаў. Раненага Л. Ляха ўнясьлі ў хату, а Адама Ляха і Ю. Шэстака арыштавалі. На другі дзень арыштаваных зволнілі. У хуткім часе пасьля нападу жаўнераў на сялян в. Брыкоўшчына сьмяротна раняны Л. Лях памёр—у час падарожы да бальніцы ў Клецку.

У хуткім часе па тых выпадках „Газэта Нясьвіжская“, арган Павятовага Сойміку, паведаміла, што жаўнеры забілі аднаго бандыта і арыштавалі 2-х. Забіты жаўнерамі Л. Лях быў солтысам і праз 25 гадоў быў царкоўным старастай. Факт гэты добра характэрызуе адносіны на беларускіх землях—каждае праступленьне, зробленае мясцовай уладай, знаходзе сваё апраўданьне ў пераконываючых лёгка польскае грамадзянства аргумэнтах (даводах):—„бандыт“.

Усе мясцовыя ўлады, як роўна і польская прэса зараз-жа пасьля дакананьня праступленьня над мясцовым насяленьнем—усімі сіламі стараюцца абараніць злачынцаў — у мэтах „аховы павагі польскай улады“.

Але гэтая павага, утрымліваная гэткімі спосабамі ня прынясе пажаданых рэзультатаў для Польшчы.

Вышэйпаданы факт—зусім не адзіны ў сваім родзе: гэткім спосабам паліцыяй і войскам забіта некалькі асоб, аб якіх праступленьнях казалі папярэднія інтэрпэляцыі.

У віду вышэй прыведзенага інтэрпэлянты пытаюцца п. міністра:

1. Ці мае ён усьмірыць самаволю пагранічнай стражы, бяскарна забіваючы мясцовае насяленьне?

2. Ці мае аддоць судавым уладам жаўнероў, якія забілі солтыса Л. Ляха?

3. Ці мае пачаць справу аб прыватнае адшкадаваньне ад скарбу для сям'і забітага солтыса?

Варшава, 30/IV—1925 г.

**241**—Паслоў Белар. Клюбу да п. Міністра скарбу—у справе бяспраўнага налажэньня маёнткавага падатку і пабіцьця сэквэстратарам і паліцыянтам солтыса в. Грыбоўцы, гм. Галынка, Горадзен. пав.

Солтыс в. Грыбоўцы, Галын. гм., Горадзен. пав. Якаў Ігнацюк мае каля $^{1}/_{4}$ дзесяціны зямлі, але падаткавыя ўлады налажылі на яго падатак ад маёнтку ў суме 48 слотых 18 грошаў, указываючы ў „выказе“ 15 дзесяцін.

Ня гледзячы на скаргу Ігнацюка сэквэстратару Куклічу на бяспраўнае налажэньне падатку, той спагнаў з яго першую рату ў суме 9 зл. 99 гр., а так-жа на 2 наступныя раты забраў машыну, належачую да бацькі платніка Кандрата Ігнацюка, на выкуп якой бацька павінен быў заплаціць 20 зл. 94 гр. у скарбовую касу (квіт з 12/III 1925 г. - № 781—051190 і 781—051191).

11-га сакавіка г. г. сэквэстратар Кукліч з паліцыянтам Рыгорам Мернякоўскім прыбылі да вёскі Галынкі, каб сэквэстраваць маемасьць платнікаў. Па дакананьні сэквэстрацыі, урадоўцы патрэбавалі ад солтыса І. Ігнацюка, каб ён на 15-га сакавіка адабраў у сялян засэквэстраваныя каровы і даставіў іх у Галынку. Солтыс адказаў, што ён—ня ў сілах выканаць гэтага, што гэта можа зрабіць толькі паліцыя. У адказ на гэта сэквэстратар і паліцыянт пачалі біць солтыса, а калі солтыс стаў абурацца на гэтую самаволю і надужыцьце прадстаўніка ўлады, дык вышэй паказаныя ўрадоўцы далі яму яшчэ больш, дый яшчэ зрабілі пратакол на солтыса.

Сьведкамі гэтай справы былі: Язэп Ігнацюк, Аляксандар Карповіч і Пётр Карповіч—з вёскі Галынкі.

У віду вышэйпаданага інтэрпэльнты пытаюцца ў п. Міністра:

1) Ці мае ён даручыць падлеглым яму органам вярнуць Ігнацюку Якаву і Кандрату незаконна спагнаныя сумы на падатак маёнткавы?

2) Ці мае ён аддаць пад суд сэквэстратара Кукліча і паліцыянта Мернякоўскага—за пабіцьцё солтыса пры выкананьні службовых абавязкаў.

Варшава 30/IV—1925 г.

**№ 242**—Паслоў Беларускага Клюбу да п. Міністра скарбу — у справе перацяжэньня падаткамі вёскі Карыцішкі, гм. Арлянскай, Бельскага пав.

Сяляне вёскі Карыцішак, Арлянскай гміны, Бельскага пав., абложаны падаткамі панад іх платнічай здольнасьцю. Ніводны гаспадар ня можа аплаціць усіх падаткаў. Падаткі гэткія: маёнткавы, зямельны дзяржаўны, паветавы камунальны, бальнічны, дарожны, падатак ад дамовай жывёлы, за пашпарты, ад каней і кароў, зямельны гмінны, ад памешканьня (кватэрны), падаходны і — пажарная страхоўка—усяго разам каля 3.500 злотых на 38 гаспадарак, што выносіць амаль не па 100 злотых на кожнага гаспадара.

Гэткая сума падаткаў становіча — панад сілы падатнікаў, сяляне, як жылі — ніколі яшчэ такіх падаткаў не плацілі. Гаспадарка кожнага селяніна складаецца ледзь з $4^{1}/_{2}$ дзесяцінаў пахатнай зямлі, камяністай, неўраджайнай. Недахват інвэнтару, жывога і мёртвага, брак гатоўкі, брак збожжа на прадажу не дазваляюць сялянам вясьці добрую гаспадарку.

У віду вышэйпаданага інтэрпэлянты пытаюцца п. Міністра:

1) Ці мае ён зьменшыць падаткі жыхарам вёскі Карыцішкі да разьмераў, адпавядаючых платнічай здольнасьці падаткаў?

Варшава, 30.-IV.—1925 г.

**№ 243**—Паслоў Беларускага Клюбу да п. п. Міністраў Унутраных спраў, Справядлівасьці і — Прамысловасьці і Гандлю — у справе надужыцьцяў уладаў у гміне В. Бжостовіцкай (Берастав іцкай), Горадзенскага павету — у зьвязку з „падводнай павіннасьцю“.

У дзень 30.-V.—1924 г. урад гміны Берастаўіцкай, Горадзенскага пав., прыслаў да солтыса вёскі Цяцяраўка паперку гэткага зьместу: „Даручаю выслаць на 31.-V.—1924 г. 4 фурманкі для рэмонтавай каленіі № 1 у мяст. Вялікія Берастаўічы—дзеля звозкі слупоў“. Подпіс сэкрэтара Сідзінеўскага.

Ужо самы зьмест гэтага даручэньня кажа аб дзіўна ўстарэўшых паняцьцях аб будове органаў самаўраду.

Але—згодна з гэтым даручэньнем, былі вызначаны сяляне Юстын Ланскі, Нестар Паўшка, В. Даражка і Аўстахі Карпенюк, якія, прыбыўшы на працу 31 траўня, запыталіся ў тэлеграфнага ўрадоўца Янушэўскага, хто будзе плаціць ім за фурманкі і працу.

Урадовец адказаў нахальна: „Бог заплаціць, я-ж ня буду плаціць“. І зараз-жа паслаў за паліцыянтам, які зрабіў пратакол на вышэйпералічаных сялян.

Міравы судзьдзя 3 округу ў Крынках моцна пакараў—штрафам па 20 злотых ды і па 2 злотых судовых коштаў, а на другі раз яшчэ мацней—бо па 50 злотых і па 5 злотых судовых коштаў—гэтых сялян.

У звязку з вышэйпаданым насоўваюцца пытаньні:

1. Ці сэкрэтар гміны мае права даваць — ад імя войта гміны—такія катэгарычныя даручэньні, як прыведзеныя вышэй?

2. Ці ўрадовец тэлеграфу на сваю адказнасьць адказаў сялянам, што за фурманкі і працу заплаціць ім Бог?

3. Ці запраўды тэлеграфныя ўлады думаюць, што мясцовае насяленьне абавязана дарма працаваць на карысьць тэлеграфу, які цяпер з'яўляецца дзяржаўным прадпрыемствам, якое прыносіць даход?

4. Ці ў віду гэтага міравы суд у Крынках меў маральнае права караць сялян, якіх змушалі да працы — як з боку фармальнага, таксама і з боку праўнага—няслушна?

Справа рэквізыцыі падводаў на беларускіх землях знаходзіцца ў поўным хаосе. Кажды войт гміны, кажды камэндант паліцыі ўводзіць абавязак дастаўкі падводаў — паводле сваей самаволі. Вельмі часта гэтая самаволя стаіць косткай у горле беларускага сялянства. Беларускі Клюб ужо ня раз рабіў інтэрпэляцыі ў падобных справах, але паны міністры дагэтуль не падумалі аб урэгуляваньні гэтай справы, аддаючы мясцовае насяленьне вельмі часта—у ахвяру самаволі адміністрацыі.

У віду ўсяго гэтага інтэрпэлянты пытаюцца п. п. Міністраў:

1. Ці маюць яны ўнясьці адпаведны законапраект аб падводнай павіннасьці, ці зусім скасаваць гэтую павіннасьць, якая пасьля вайны з'яўляецца дзікім перажыткам, якога ў канстытуцыйных дзяржавах нідзе ўжо няма?

2. Ці маюць яны пацягнуць да адказнасьці віноўных у вышэй прыведзенных надужыцьцях?

3. Ці маюць яны — у парадку ласк; (захоўваючы адпаведныя правілы) — скасаваць судовыя кары, незаконна наложаныя на сялян Міравым Судом, дзякуючы самаволі ўладаў?

Варшава, 30/IV—1925 г.

### Галадоўка ў беластоцкім вастрозе.

„Усходняе Агенства“ даносіць, што ў беластоцкай турме выбухла галадоўка сярод палітычных вязьняў. Прычынай галадоўкі была адмова адміністрацыі злагодзіць жорсткі рэжым вастрогу, як гэтага дамагаліся вязьні. У справу ўжо ўмяшаўся беластоцкі пракурор, але што ён захоча зрабіць няведама.

## Напады і замахі.

### Новы вялікі замах на „Крэсах“.

8/VI усю Варшаву абегла вестка аб новым вялікім нападзе на „Крэсах“ на цягнік, які быццам быў навет узарваны ў паветра...

Але пасьля выясьнілася, што быў вялікі напад, але не на цягнік, а на двор „Корніцы“, у Лыскаўскай гміне, Ваўкавыскага павету.

Банда ў 50 азброеных у рэвальвэры і кулямёты (расейскія) чалавек, апранутых у расейскія „гімнасьцёркі“, напала на дом, забіла ў ім арэндара і яго гаспадыню; зрабавала ўсё, што было, падпаліўшы двор... Калі на страляніну і від агня пачалі шыкавацца і падыходзіць атрады паліцыі і войска, бандыты—у поўным баявым парадку — адыйшлі ў напрамку „Новага Двору“, дзе і зьніклі па лясох і балотах.

Паліцыя думае, што разам з войскам і прыбываючай аж з Варшавы падмогай (!!) яна здалее акружыць і вылавіць банду... „Dz. Wil.“

### Яшчэ фальшывая паніка ў Варшаве.

6/VI вечарам уся Варшава была ў паніцы з прычыны пушчанай газэтамі весткі аб тым, быццам у Нараградчыне ўзарваны чыгунковы мост і разьбіліся аж 3 цягнікі... Весткі аказаліся фальшывымі... Але цікава гэтая характэрная для нячыстага сумленьня лёгкасьць веры і хуткасьць панікі... Не дарма-ж казаў аб бандытах п. Тугутт, што толькі яны змушаюць Варшаву да рэформаў і палёгкаў для „Крэсаў“...

### Спроба замаху на цягнік.

На рэльсы вузка-калейкі Браслаў—Опсы няведамыя замахоўцы—на 60 вярсьце ад Браслава—наклалі шпалаў. Але цягнік на ўсім хаду скінуў сам шпалы і прыйшоў цэлым на станцыю.

### „Разьбіткі дывэрсыйнай банды ў Віленшчыне“.

„Dz. Wil.“ дае дзіўныя весткі аб „разьбітках дывэрсыйнай банды“, якая зрабіла няўдалую спробу нападу на цягнік між Сьвіслачай і Нарэўкай. Банда рассыпалася на дробныя групкі, з якіх адна ў 6 чалавек навет прайшла праз Рудніцкую Пушчу пад Вільню і далей на Немянчын. „Бандыты зусім вычарпаны, галодныя, босыя, абдзёртыя, але... маюць яшчэ вялікі запас куляў і расейскіх карабінаў... Гавораць між сабой выключна (!) парасейску. Улады Віленска-Троцкага павету наладзілі на іх аблаву“.

Вось, што піша наіўная газэта. — Калі навет супрацоўнікі віленскай газэты так добра бачылі і так зблізка чулі гэтых 6 бандытаў, што ведаюць, як яны абуты (!) і апрануты, сколькі ў іх куляў і як яны гавораць паміж сабой, дык, дапраўды, дзіўна, на што яшчэ ўладам ладзіць на гэтых 6 вычарпаных чалавек вялікія аблавы... Ці-ж, дапраўды, так страшыць „wiekszy zapas kul i krótkie karabiny rosyjskie“... у руках 6 змораных людзей, што яны маглі прайсьці ад Ваўкавыска аж да Немянчына—на віду і на слуху ўсіх „супрацоўнікаў“ і карэспандэнтаў „Dz. Wil.“, якіх на „Крэсах“ — тысячы?!.

А хтось казаў, што p. Obst—зусім ня дурны чалавек; бяда толькі, што—і не разумны...

## Заграніцай.

### Польска-Данцыгскі спор у Лізе Народаў.

Рада Лігі Народаў 11/VI разглядала рашэньне Гаагскага Трактату справядлівасьці ў справе польскай пошты ў Данцыгу.

Як ведама, Гаагскія судзьдзі, што са 2 тыдні сядзелі над справай і напісалі лістоў з 40, каб паўтарыць тое, што сказана ўжо ў Трактаце, — што Польшча мае права мець пошту дзеля порту і ў порце. Але, што такое порт і які яго прастор у Данцыгу, гэта пакінулі на вырашэньне Лізе Народаў.

І вось, Рада занялася азначэньнем выразу „порт“ у Данцыгу. Прадстаўнік Данцыгу Старшыня Сэнату п. Сам даводзіў чыста юрыдычна: у Вэрсальскім Трактаце ёсьць 3 тэрміны (выразы): „Вольнае Места Данцыг“ (увесь дзяржаўны абшар), „места Данцыг“ („места на гэтым абшары“) і—„порт Данцыг“,—адрозьніваюцы тры гэтыя рэчы адна ад аднэй. Дык — згодна з Трактатам — пошта павінна быць толькі для „порту Данцыга“. Прадстаўнік Польшчы п. Страсбургер „дасьціпна“ даводзіў, што „порт“ гэта значыць—або „водны абшар“ (порту!..), або усе места партовыя разам(?). Дык калі Трактат кажа аб польскай пошце ў порце, дык гэта значыць—у цэлым месьце, бо завясьці пошты толькі на вадзе ня можна.

Рада, выслухаўшы ўсё, пастанавіла паслаць на мейсца камісію, якая выразна вызначыць, што такое ў Данцыгу порт (!) і на якім абшары Польшча мае павесіць скрынкі.

Будзе, нешта ў родзе „падзелу Шлёнску“, які пасьля 4 гадоў прызнаны „абмылкай“.

### Пагроза мытнай вайны паміж Польшчай і Нямеччынай.

15/VI кончыўся для Польшчы срок права прымусовага ўвозу ў Нямеччыну прадуктаў з Верхняй Сілезіі (Шлёнску). Таргавага дагавору між Польшчай і Нямеччынай яшчэ няма, а пакуль што на прапазіцыю Польшчы захаваць усё, як было, Нямеччына адказала такімі варункамі, што Польшча маніцца пачаць націск на нямецкі ўвоз у Польшчу, што можа давясьці да адкрытай мытнай вайны, у якой, няма сумліву—Польшча будзе пабіта. — Бо эканамічная вайна з Нямеччынай заб'е Польшчу безрабоцьцем у Сілезіі і страшэннай дарагоўляй тавараў першай патрэбы, якія пераважна ідуць з Нямеччыны. Бо — колькі раз сцьверджана ў прэсе і ў Сойме, што Польская Сілезія толькі і трымаецца гаспадарчаю сувязьзю з Немцамі.

### У Шанхаі.

Палажэньне ў Шанхаі ї наагул—у Кітаі, робіцца ўсё больш напружаным. Усе дзяржавы ўжо пачалі былі рыхтавацца да запраўднага паходу на Кітай, але Амэрыка рашуча спыніла гэты „крыжавы паход“. Аднак-жа, новыя караблі „заінтэрэсаваных“ дзяржаў пасылаюцца „на ўсялякі выпадак“, бо рух у Кітаі шырыцца, і ў кожны мамэнт можа прыняць форму агульнай разьні чужакоў. Кітайскі ўрад—таксама бяссільны, як і ў пратэстах перад урадамі чужакоў, так і перад пачаўшымся абурэньнем народу.

Японскі ўрад ветліва запрапанаваў кітайскаму — сваі... войскі і паліцыю для навядзеньня парадку ўва ўсім краі, але кітайскі ўрад падзякаваў за гэта. У Шанхаі ізноў кітайцы разграбілі некалькі складаў, належачых да эўрапэйцаў.

### Пашырэньне руху проці эўрапэйцаў і японцаў у Кітаі.

Новыя разрухі пачаліся ў Гонконгу проці англійцаў і японцаў. Натоўп народу напаў на казармы англійскіх жаўняроў, якія пачалі страляць з кулямётаў, забіўшы і зраніўшы шмат кітайцаў. Цэлы рад магазынаў і складаў эўрапэйцаў разграблена.

У цэлым радзе раёнаў, ахопленых забастоўкай (пераважна з фабрыкамі чужаземных прамыслоўцаў), абвешчана ваеннае палажэньне. Радавая прэса падае лічбу ахвяраў чужаземнай паліцыі і войска ў Шанхаі: 35 забітых, 65 цяжка раняных, 100 лёгка раняных, больш 600 арыштаваных.

Усяго ў Шанхаі бастуе больш 250.000.—Дык уся прамысловасьць—у паралічы.

### Анлійскія работнікі аб кітайскім руху.

Англійскія работніцкія арганізацыі выпусьцілі маніфэст, у якім выражаюць спагаг кітайскім бастуючым і пратэстуючым проці гвалтаў над работнікамі і—трэбуюць адазваньня англійскіх войскаў з раёну забастоўкі ў Кітаі.

### ССРР прапануе свой „пакт бясьпечнасьці“.

Радавы пасол у Рызе высунуў думку аб балтыцкім пакце, гарантуючым граніцы ССРР і балтыцкіх дзяржаў. Варункі гэтай гарантыі з боку ССРР гэткія:

1) Нейтральнасьць на выпадак вайны з Польшчай ці Румыніяй;

2) Вырашэньне спораў шляхам палюбоўнага суда, але не Гаагскім Трыбуналам.

### Высылка менскіх зямлïўласьнікаў у Сыбір.

Менская газэта „Звезда“ апублікавала сьпісак былых зямлïўласьнікаў Менскай губ., якія падлягаюць высяленьню з Беларусі. Большасьць іх высылаецца ў Сыбір—у першай групе 291, у другой 226 сямей.

### Радавая прэса аб коаліцыі проці Англіі.

Уся Радавая прэса высоўвае канешнасьць заключэньня паразуменьня Расеі, Францыі і Нямеччыны—для процідзеяньня Англіі, якая вядзе палітыку аднолькава шкодную для Радаў, як і не забясьпечываючую Францыю.

### Нямеччына і Ліга Народаў.

Нямеччына заяўляе, што ўвойдзе у склад Лігі Народаў толькі пасьля таго, як будзе ачышчаны першы рэйнскі абшар.

### Пагроза ўрадовага крызысу у Чэхаславакіі.

З прычыны ўвядзеньня (ўмоўнага) ўрадам мыта на сельска-гаспадарчыя прадукты (што падаражае жыцьцё мястовага работніка), 3 міністры-сацыялісты, уваходзячыя ў склад габінэту, выйшлі з апошняга, падаўшы свае міністэрскія мандаты на распараджэньне партыі. Ад пастановы партыі будзе залежаць іх выхад з Ураду і—крызіс апошняга.

### Пратэст нямецкіх ахвіцэраў.

Саюз нямецкіх ахвіцэраў выпусьціў маніфэст, у якім рэзка пратэстуе проці дамаганьняў саюзьнікаў у справе разбраеньня, заклікаючы нямецкі ўрад да рашучай адмовы ад усялякіх уступак.

### „Саюз паняволяных народаў.

Адна з бэрлінскіх газэтаў, блізкая да міністэрства замежных спраў, паведамляе, што ў прагягу гэтага месяца ў Бэрліне мае быць створаны „Саюз паняволеных народаў“.

### Фінансавы крызіс ува Францыі.

На паседжаньні Рады Міністраў Кайо нарысаваў сумны стан дзяржаўных фінансаў, і заклікаў сваіх калегаў па габінэту ўстрымлівацца ад усялякіх лішніх выдаткаў.

### Першы „адбой“ Францыі ў справе вайны ў Марокко.

Францускае агенцтва перадае заяву, якую зрабіў Панлевэ з падарожы ў Марокко, куды ляцеў на аэраплянe. Ён заявіў, што паразуменьне яго з гішпанскім урадам мае мэтай „усталеньне, ці закрапленьне сучаснай сітуацыі ў Марокко — пры найменшай рызыцы і пры найменшым ужыцьці аружных сілаў“...

Як ведама з газэтных вестак, францускія войскі панесьлі ў Марокко нямалыя страты ў людзях і змушаны былі падацца назад амаль не на ўсім фронце. Цяжкае фінансавае становішча Францыі змушае яе ўрад хутчэй як-небудзь закончыць гэтую няслаўную для Францыі вайну.

### Яшчэ... урадовы крызыс у Бэльгіі.

Толькі што злажыўшы разам з сацыялістамі коаліцыйны габінэт лідэр католікаў (дэмакратычнага крыла) п. Пуле... падаў каралю, як і ўсе 5—6 яго папярэднікаў, заяву аб адстаўцы, навет ня выступіўшы перад Соймам.

Нейкі мор на габінэты ў Бэльгіі.

### Угодкі забойства пасла Маттэотті.

Уся нефашыстаўская Італія рыхтуецца да ўгодкаў забіцьця фашыстаўскім урадам — з ведама самаго прэм'ера Мусоліні—сацыялістычнага пасла Маттэотті. Фашысты таксама „прымаюць меры“, каб не дапусьціць ніякіх дэманстрацыяў у гэты дзень. Спадзяюцца вялікіх сутычак.

### Раскрыцьцё спробы замаху стану ў Грэцыі.

Паліцыя ў Афінах напала на сьлед паважнай змовы вышэйшых ахвіцэраў. Места пераведзена на ваеннае палажэньне. Робяцца вобыскі і арышты. Быў плян замаху і стварэньня новага ўраду—дырэкторыі з 5 асобаў.

## ХРОНІКА.

**Забойства польскага ксяндза.** У м. Вілюцянах 8/VI забіты ксендз Грондзкі, кіраўнік закладу для непаўналетніх праступнікаў. Забіў ксяндза трыма стрэламі з рэвальверу эканом закладу—быццам (як піша „Dz. Wli.“) за раскрыцьцё яго надужыцьцяў. Ксендз Грондзкі — ведамы „прыхільнік польска-літоўскага парузуменьня“, (?) за што яго ненавідзелі літоўцы, трымалі ў вастрозе ў 1919 г. ў Коўні, а пасьля выселілі з Літвы зусім. Гэтак піша „Dz. Wil.“, а „Виленское Утро“ падало было адразу вестку, што забойства ксяндза адбылося на „романтычнай падкладцы“. Аканом быў адразу заарыштаваны і дастаўлены ў Вільню на Лукішкі, дзе, як падаў той-жа „Dz. Wil.“, самахоць павесіўся.

**З'езд крэсавых пястоўцаў у Вільні.** 14/VI ў салі „Лютня“ адбудзецца акружны з'езд пястоўцаў. На з'езд мае прыехаць і сам п. Вітас, які зробіць даклад аб сучасным палажэньні палітычным і аб бягучых патрэбах вёскі (?— чытай — асаднікаў)...

**Важны пачын ураду ССРР.** „Роста“ даносіць, што ўрад ССРР зьвярнуўся да польскага міністэрства чыгункі с прапазыцяй — склікаць у ліпні г. г. ў Маскве першую (за 6 гадоў!) польска-савецкую канфэрэнцыю ў справах чыгункавай камунікацыі.

**Наваградзкае ваяводзтва.** Ўрад пастанавіў утрымаць Наваградзкае ваяводзтва надалей. Але сучасны ваявода гэнарал Янушайтіс, які выкліканы ў Варшаву і, ужо больш ня вернецца ў Наваградак, вернецца ў армію. — Яго баўгарскія „стратэгічныя“ аблавы на людзей, яго арышты — зараз ня менш як тысячамі!—„бандытаў“ паказалі, што навет у Польшчы, навет на яе „Крэсах“ гэты „гарачы не па розуму“ ваяка — сеў ці пасаджаны не на свае мейсца.

**Камуністычныя адозвы.** У працягу ўчарашніх сутак, як павед. „Dz. Wil.“, 11/VI знойдзены камуністычныя праклямацыі, якія былі раскіданы па вул.: Славацкага, Перамонце, Львоўскай, а так-же на падворку гімназіі імені Лелевеля.

Адозвы былі надрукованы на мовах: польскай і беларускай.

**Граната на чыгунцы пад Баранавічамі.** Учора, як падае „Dz. Wil.“, у часе абходу чыгункавай лініі ў блізі ст. Баранавіч паліцыянтам калеёвым заўважана граната, якая была палажана на рэльсы. Граната, як піша польская газэта, мела-б страшэнную сілу ў час яе выбуху.

Рэдактар-Выдавец: **М. Гэрмановіч.**

Друкарня **Н Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22.